*Беларусь: наступальны марш ва ўчарашні дзень. Агляд замежнай прэсы (стар. 3)*
*«Сенсацыя» ў філатэліі (стар. 4) Арсенал часоў «бакінскай авантуры» (стар. 4)*

# СВАБОДА

Год заснавання 1902
Выходзіць з 1990
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік і выдавец Павел Жук
Наклад 46.230
Адрас рэдакцыі:
220088, Мінск, вул.Іванаўская, 56
Тэл./факс 2 362 441

10 снежня 1996 г. № 94 Кошт свабодны

## Беларусь выстаўляюць за дзверы Еўропы

**Роспуск Лукашэнкам беларускага парламента прывёў да таго, што Беларусь пачынаюць выстаўляць за дзверы еўрапейскіх арганізацый.**

У прыватнасці, Савет Еўропы разглядае пытанне аб пазбаўленні Беларусі статусу спецыяльна запрошанай. *«Да гэтага схіляюцца асноўныя фракцыі Парламенцкай Асамблеі Савета Еўропы»,* — заявіла Лені Фішэр, кіраўнік гэтай структуры. Як паведамляе нямецкае інфармацыйнае агенцтва *DPA*, можна чакаць, што ўжо ў пачатку новага года бюро Парламенцкай Асамблеі прыме рашэнне аб выключэнні «спецыяльна запрошанай» Беларусі з Савета Еўропы. Як падкрэсліла Лені Фішэр, прызначаны Лукашэнкам парламент не з'яўляецца дэмакратычна створаным заканадаўчым органам, а, значыць, не можа лічыцца легітымным.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## Газ: на галодным пайку

*У Мінск паступіла непрыемная вестка з расійскага «Газпрома»*

Кіраўніцтва канцэрна паведаміла беларускаму ўраду, што з сённяшняга дня (10 снежня) пастаўкі газу ў Беларусь будуць скарочаны ў два разы. Прычына — хранічная запазычанасць беларускіх спажыўцоў: у апошнія месяцы пастаўкі газу аплочваліся прыблізна на 50%. У бліжэйшыя дні стане вядома, як доўга «Газпром» плануе трымаць Беларусь на галодным пайку.

**М.Г.**

## Кворуму пакуль няма

**У нядзелю, 8 снежня, адбыўся другі тур давыбараў у Мінскі гарсавет.**

Галасаванне праходзіла ў 50-ці акругах, але патрэбную колькасць галасоў набралі толькі 7 кандыдатаў. Сярод іх прадстаўнікі ПКБ, ПНЗ і АГП. Усяго, пачынаючы з мінулага году, у Мінскі гарсавет абрана толькі 36 дэпутатаў, якіх недастаткова, каб пачаць працу гарсавета. Для кворуму патрэбна мінімум 42 дэпутаты (палова ад агульнай колькасці ў 84 дэпутацкія месцы).

**А.Д.**

## ЦВК не хоча новых дэпутатаў

**Цэнтрвыбаркам вырашыў, што не будзе праводзіць рэгістрацыю дэпутатаў Вярхоўнага Савета, абраных 24 лістапада 1996 года падчас давыбараў у беларускі парламент.**

Нагадаем, што ў першым туры галасавання чатыры кандыдаты ў дэпутаты набралі колькасць галасоў выбаршчыкаў, неабходную для рэгістрацыі іх дэпутатамі Вярхоўнага Савета. Цэнтрвыбаркам матывуе сваё рашэнне аб адмове іх рэгістрацыі *«спыненнем паўнамоцтваў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь трынаццатага склікання».* Пры гэтым робіцца спасылка на арт.143 «прэзідэнцкай канстытуцыі» — гэта значыць на артыкул, які не меў ніякай сілы на момант галасавання выбаршчыкаў.

*БелаПАН*

## Рамашэўскі – у Польшчы

**За апошнія месяцы ў польскае міністэрства замежных справаў звярнуліся 8 грамадзянаў Беларусі з просьбай аб палітычным прытулку.**

Сярод іх — прэзідэнт Партыі аматараў піва Вадзім Чарнышоў, ягоны намеснік Андрэй Рамашэўскі, прадпрымальнік Зміцер Емяльянаў, журналіст з Брэста Іван Чурыловіч. Ці атрымае хто з іх прытулак — невядома. Працэдура разгляду прашэння можа працягвацца нават 18 месяцаў. Андрэй Рамашэўскі, напрыклад, зможа атрымаць які-небудзь адказ наконт сваёй просьбы толькі ў красавіку 1997 г. Як вядома, сп.Рамашэўскі быў асуджаны сёлета ў ліпені да двух гадоў (умоўна) за тое, што разарваў БССРаўскі сцяг.

Дарэчы, некаторым беларусам, якія звярнуліся ў польскае МЗС з просьбай аб палітычным прытулку, далікатна намякнулі, што яны не могуць на гэта нават разлічваць.

**Марцін СМЯЛОЎСКІ**



# Мінск, 8 снежня. Арыштавана больш за 20 чалавек

**Больш за 20 чалавек былі арыштаваныя пасля антыпрэзідэнцкай дэманстрацыі, якая праходзіла ў Мінску ў нядзелю, 8 снежня.**

Падзеі пачаліся ў 12:00 на плошчы Незалежнасці, дзе сабралося некалькі тысяч чалавек на мітынг-сустрэчу з дэпутатамі Вярхоўнага Савета. Тут выступілі Ю.Хадыка, С.Шарэцкі, Г.Карпенка, С.Багданкевіч, С.Шушкевіч і іншыя. Міліцыя не чыніла перашкодаў, але ўсіх прамоўцаў і ўдзельнікаў акцыі здымалі на відэа спецаператары.

З плошчы Незалежнасці дэманстранты выйшлі на праспект Скарыны і рушылі па тратуару да адміністрацыі прэзідэнта. У гэты момант да калоны далучылася шмат моладзі, і агульная колькасць удзельнікаў стыхійнага шэсця дасягнула 4—5 тысяч. Каля адміністрацыі прэзідэнта дэманстрантаў сустрэў ланцуг міліцыі. Але ўдзельнікі акцыі доўга тут не затрымаліся — гучна нагадаўшы Лукашэнку пра «чамадан, вакзал, Расію», калона рушыла далей.

*На здымку: каля расійскага пасольства на вул. Камуністычнай дэманстрантаў сустрэлі кардоны амонаўцаў.*

Наступным пунктам было расійскае пасольства, вакол якога ўжо стаялі шчыльныя кардоны амонаўцаў. Абодва бакі паводзілі сябе мірна. Супрацьстаянне скончылася скандзіраваннем "Ганьба!", "Здрада!". Ад расійскага пасольства дэманстранты накіраваліся па вуліцы Камуністычнай да тэлерадыёцэнтра. Тут іх сустрэлі яшчэ больш моцныя кардоны. Але ніякіх інцыдэнтаў не здарылася.

Людзей пачалі хапаць ужо пасля 15 гадзінаў, калі пасля кароткага мітынгу яны разыходзіліся ад тэлецэнтра. Можна меркаваць, што кандыдатаў на затрыманне выбіралі загадзя і сачылі за імі. Затрымлівалі ў раёне плошчы Перамогі, плошчы Якуба Коласа, каля цырка і нават у метро. Паводле нашых звестак, было арыштавана больш за 20 чалавек. Сярод іх — лідэр Грамады Мікола Статкевіч, падпалкоўнік міліцыі ў адстаўцы Уладзімір Зорчанка, дырэктар Белліт-фонда Мікола Міхноўскі. Была затрыманая нават сястра міністра юстыцыі І.Табушава, якую, праўда, у той жа дзень выпусцілі, але назаўтра яна самастойна з'явілася ў суд. Астатніх утрымлівалі ўсю ноч у Цэнтральным РАУС і іншых раёных аддзелах міліцыі, а таксама ў камерах сумнавядомага спецразмеркавальніка ў раёне вуліцы Прылуцкай. Учора, 9 снежня, у другой палове дня некаторых затрыманых даставілі ў суд Цэнтральнага раёна г.Мінска, дзе трое суддзяў пачалі разглядаць справы.

**Мікола ГРЫНЯВІЦКІ**

*На здымку: спецаператар МУС здымае дэманстрантаў.*

# Ці паляцяць у Перу беларускія знішчальнікі?

**Па звестках з дасведчаных крыніц, кіраўніцтва Беларусі заключыла з урадам Перу кантракт аб пастаўцы ў гэтую паўднёваамерыканскую краіну ўзбраення і запчастак для баявых самалётаў.**

Згодна з папярэдняй інфармацыяй, ішла гаворка і аб продажы знішчальнікаў СУ-25, аднак гэтыя звесткі абверг прэм'ер-міністр Перу Альберта Пандольфі. Як паведаміла агенцтва *Reuter*, ён прызнаў толькі факт набыцця эскадрыллы МИГаў, пры гэтым не назваўшы краіну, адкуль будуць пастаўленыя самалёты. На ранейшай інфармацыі канфідэнцыяльных перуанскіх крыніц, на якія спасылаецца *Reuter*, Перу дамовілася аб набыцці васемнаццаці знішчальнікаў МИГ-25, чатырнаццаці СУ-25 і вялікай колькасці бомб, ракет ды баявога прыстасавання для вайсковых самалётаў у краінах СНД, у тым ліку і ў Беларусі.

Афіцыйныя ўлады ў Беларусі пакуль ніяк не адрэагавалі на інфармацыю агенцтва *Reuter*. Як стала вядома, не мае дачынення да кантракта з Перу і дзяржаўная арганізацыя «Белтэхэкспарт», праз якую раней ішла на продаж за мяжу большая частка зброі. Дык ці ёсць увогуле беларускі след у гэтай гісторыі?

Як сцвярджаюць дасведчаныя крыніцы, кантракт сапраўды заключаны, аднак не ў тых памерах, на якія разлічваў беларускі бок. У закрытым «конкурсе» на продаж баявых самалётаў у Перу удзельнічалі, акрамя Беларусі, таксама Расія і Украіна, прычым і тут «старэйшы брат» абставіў сваіх братоў: перуанцы вырашылі набыць расійскія МИГі замест СУ, якія прапанавала Беларусь. І ўсё ж, каб зусім не расчараваць вернага саюзніка, Расія аддала беларускаму боку частку кантракту на пастаўку некаторых відаў авіяцыйнай зброі і запчастак для самалётаў. Па папярэдніх звестках, сума кантракту — ад 50 да 100 млн. долараў. Прычым пытанне аб далейшым супрацоўніцтве Беларусі з Перу не закрытае. Працягваецца падрыхтоўка перуанскіх лётчыкаў і тэхнікаў на базе авіярамонтнага прадпрыемства ў Баранавічах, дзе штогод стажыруюцца групы па 20—30 лацінаамерыканцаў.

Трэба, між тым, заўважыць, што ваеннае супрацоўніцтва з Перу неадназначна ўспрымаецца ў свеце. Ёсць падставы абвінавачваць удзельнікаў такога супрацоўніцтва ў свое асаблівай падтрымцы ўзброенага канфлікту: паміж Перу і суседнім Эквадорам з мінулага года фактычна вядзецца вайна за кавалак памежнай тэрыторыі, і гэта стварае напружанасць у цэнтры Паўднёвай Амерыкі. Паводле міжнародных стандартаў, пастаўка зброі ў "гарачую кропку" заўсёды разглядаецца як спроба нажыцца на чужой бядзе, а гэта не надае аўтарытэту краінам, якія праводзяць такую палітыку. Аднак кіраўніцтва Беларусі, як бачым, падобных прынцыпаў не прытрымліваецца. Як сцвярджаюць крыніцы, ваенныя пастаўкі з Беларусі ў Перу будуць хутчэй за ўсё праводзіцца праз фірму «Белспецтэхніка», спецыяльна створаную для падобных мэтаў Саветам бяспекі пры адміністрацыі прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

*Агляд замежнай прэсы*

# Беларусь: наступальны марш ва ўчарашні дзень

*«Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка, здаецца, адчувае сябе добра пасля свайго бяскроўнага дзяржаўнага перавароту — нягледзячы на пратэсты з Еўропы і Амерыкі і шматлікіх палітыкаў з яго былога акружэння»*, — адзначае **International Herald Tribune**. У артыкуле пад загалоўкам «У Мінску няма парадку» падкрэсліваецца: *«Нягледзячы на тое, што прэзідэнт Беларусі маскіруе свой захоп улады пад вопраткай дэмакратыі, незаконнасць, нелегітымнасць ягоных дзеянняў не выклікае сумненняў»*. На думку **International Herald Tribune** (артыкул змешчаны на рэдакцыйнай паласе і адлюстроўвае пазіцыю газеты), вынікі рэферэндуму — 84% удзелу, 71% падтрымкі — выглядаюць вельмі па-савецку і выклікаюць падазрэнне. Цяпер Лукашэнка мае неабмежаваныя паўнамоцтвы, падоўжаны тэрмін прэзідэнцтва і пажыццёвае членства ў парламенце — але гэта толькі ягоная прыватная інтэрпрэтацыя вынікаў рэферэндуму, падкрэслівае **IHT**.

Беларусь, адзначаецца ў артыкуле, выклікала занепакоенасць у свеце перш за ўсё таму, што на яе тэрыторыі знаходзіліся ядзерныя ракеты. Нядаўна кіраўніцтвы абедзвюх краін абвясцілі, што ўсе ракеты выведзеныя з тэрыторыі Беларусі ў Расію, і — *«калі гэта сапраўды так»*, робіць рэмарку газета, — напружанасць нібыта зменшылася. Аднак у кожным выпадку *«дыктатура ў самым сэрцы Усходняй Еўропы не можа не выклікаць трывогі»*, бо пагражае стабільнасці і прагрэсу *«ўсіх суседзяў Беларусі, якія, нягледзячы на вялікія цяжкасці, ужо зрабілі паварот ад камунізму да дэмакратыі»*.

У Мінску Лукашэнку супрацьстаіць апазіцыя, і мы жадаем ёй поспеху, піша **IHT**. *«Калі ж яны прайграюць і Лукашэнка ўсё ж умацуе сваю дыктатуру*, — прагназуе газета, — *народ Беларусі заплаціць за гэта вельмі высокую цану — у плане магчымых інвестыцый, гандлю, фінансавай дапамогі і асабліва з пункту погляду інтэграцыі ў сусветную супольнасць»*, — канстатуе **International Herald Tribune.**

*«Новая канстытуцыя стварае вертыкальную палітычную сістэму савецкага тыпу, дзе ўсю палітыку дыктуе прэзідэнт»*, — характарызуе лукашэнкаўскую канстытуцыю лонданская **Financial Times.** *«Адзін з лідэраў апазіцыі Станіслаў Багданкевіч заявіў*, — цытуе газета, — *што цяпер застаецца толькі чакаць, пакуль беларускі народ прачнецца»*. Аднак гэта малаверагодна, лічыць брытанскі аглядальнік: *«Лукашэнка добра ведае свой электарат. Дынамічны прамоўца, ён мае натуральную здольнасць да савецкага стылю палітыкі»*. У заключэнне артыкула **Financial Times** прыводзіць словы аднаго заходняга дыпламата: *«Вялікая сіла Лукашэнкі — наіўная, дрэнна праінфармаваная публіка»*.

Вядомы нямецкі штотыднёвы часопіс **Der Spiegel** у артыкуле «Калі прыйдзе бацька...» (2.12.96) піша, што *«адзін чалавек ва Усходняй Еўропе павярнуў стрэлкі гадзінніка назад: Аляксандр Лукашэнка становіцца дыктатарам»*. Грамадзяне Беларусі і суседніх Польшчы, Літвы, Украіны і Расіі напрыканцы таталітарнага стагоддзя яшчэ раз перажываюць усталяванне дыктатуры ў сярэдзіне Еўропы, прычым на падставе народнага выбару, адзначае **Der Spiegel** і пералічвае крокі Лукашэнкі да дыктатуры: спасылаючыся на сумнеўнае волевыяўленне, Лукашэнка распускае парламент; цяпер ён можа прызначаць суддзяў Канстытуцыйнага суда, кіраўнікоў мясцовых і рэгіянальных адміністрацый, арганізуе выбары і кантралюе фінансы; ён распараджаецца 120-тысячнай арміяй супрацоўнікаў дзяржаўнай аховы і службы бяспекі, якая паглынае трэць нацыянальнага прыбытку.

*«Прэзідэнту настолькі неабходны быў... канчатковы захоп улады, што ён не вагаўся ў выбары сродкаў для дасягнення пастаўленай мэты»*, — адзначае далей **Der Spiegel**. Лукашэнка праігнараваў усе заклікі Савета Еўропы прытрымлівацца права і закона. Тэлебачанне было і застаецца зарэзерваваным толькі для «бацькі» і тых, хто яму падлівае. *«Супрацьўленне постсавецкаму «бацькізму» прымусіла зблізіцца лібералаў, камуністаў і БНФ»*, — піша **Der Spiegel,** аднак *«масы не паспяшаліся на абарону парламенцкай дэмакратыі»*.

*«Лукашэнка, магчыма, не задаволіцца сваім феадальным самаўладдзем над Беларуссю»*, — прагназуе нямецкі часопіс. Лукашэнка *«хоча ў Крэмль, а адтуль — пачне патрабаваць увесь свет»*. Лукашэнка адначасова вар'ят і геній. Ён ілжэ і ў гэтую ж хвіліну верыць у тое, што гаворыць. Паралель з Адольфам Гітлерам, якога Лукашэнка аднойчы пахваліў, прасочваецца ў дастатковай ступені, — дае выразную і рэзкую характарыстыку **Der Spiegel.**

**Der Spiegel** адзначае яшчэ адзін аспект: крытыку ў прэсе Лукашэнка расцэньвае як дзейнасць ізраільскіх закулісных сілаў. *«Хоць у Мінску жыве каля 30 тысяч габрэяў, ніводзін з іх не працуе ў прэзідэнцкай адміністрацыі. Лукашэнка — антысеміт»*, — цытуе **Der Spiegel** Дзмітрыя Булахава.

Буйная нямецкая газета **Die Zeit** у нумары за 6 снежня піша, што *«з першага дня свайго прэзідэнцтва Лукашэнка выбраў сабе ролю бацькі 10-мільённага народа»*. Спекулятыўныя гульні былога дырэктара саўгаса з выбаршчыкамі выявіліся ў час правядзення рэферэндуму-фарсу, лічыць **Die Zeit.**

*«Большасць выбаршчыкаў, на жаль, прагне вяртання ў савецкі рай. І прэзідэнт са слязамі на вачах запэўнівае людзей, што ён ведае самы кароткі шлях і гатовы па ім весці. Лукашэнка змог пераканаць натхнёную, хаця і пагружаную ў духоўнае ўбоства большасць, што незалежны суд, адкрыты кантроль дзяржаўных фінансаў, свабодная прэса і парламенцкая апазіцыя з'яўляюцца толькі перашкодай для іхняга любімага фюрэра ў час наступальнага маршу ва ўчарашні дзень»*, — афарыстычна-здзекліва піша газета.

Рэакцыя Крамля на ўсталяванне дыктатуры ў брацкай рэспубліцы, на думку нямецкіх аналітыкаў, выглядае абсалютна незразумелай. *«У процівагу працэсу пашырэння NATO на ўсход, якое мае гіпатэтычную ці аддаленую пагрозу для Расіі, падзеі ў Беларусі могуць аказаць непасрэднае ўздзеянне на развіццё дэмакратыі ў Расіі»*, — піша **Die Zeit.** *«Паводле ўсіх прагнозаў, нерэфармаваная эканоміка Беларусі набліжаецца да катастрофы»*, — адзначае газета. Лукашэнка будзе імкнуцца да зліцця Беларусі з Расіяй: іншага шляху пазбегнуць адказнасці перад сваім народам у яго проста няма, — прагназуе **Die Zeit.**

*Падрыхтавалі*
**Магдалена НЕПАКАЙ,**
**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

---

**После каждой встречи президента Беларуси с кем-либо из западных журналистов в белорусских официальных СМИ появляются радостные сообщения по этому поводу. Однако позже выясняется, что журналист оказался «нячэсным» и опубликовал на Западе очередной «пасквиль». С одной из таких историй мы сегодня знакомим читателей СВАБОДЫ.**

## «Александр Лукашенко дал интервью французскому журналисту»

Под таким заголовком в «Советской Белоруссии» и других ежедневных газетах 13 ноября 1996 г. была опубликована информация БелТА следующего содержания:

*«Мы уже привыкли к тому, что интерес стран Западной Европы к Беларуси постоянно растет. Причем, как считает Президент нашей республики Александр Лукашенко, этот интерес «подогревается» силами и представителями средств массовой информации из оппозиционных главе государства кругов. Об этом белорусский Президент заявил в интервью корреспонденту французского журнала «Пуэн» Жоскару Гюберу, которое он дал 12 ноября.*

*Это влиятельное и респектабельное общественно-политическое издание отражает взгляды «правого центра» политических сил Франции. «Пуэн» пользуется устойчивой репутацией серьезного аналитического журнала, рассчитанного на политиков и представителей деловых кругов. Поэтому неудивительно, что Жоскара Гюбера интересовали прежде всего внутриполитическая ситуация в нашей республике накануне предстоящего референдума, процесс реформирования ее экономики, отношения Беларуси с Россией. В ходе интервью были также затронуты проблемы, связанные с последствиями аварии на Чернобыльской АЭС».*

Кстати, неизвестный автор этой заметки умудрился даже перепутать имя журналиста, назвав его Жоскаром, в то время как корреспондента *Le Point* зовут Ромэн Гюбер. В заголовок статьи, которую г-н Гюбер опубликовал в своем журнале спустя две недели после встречи с Лукашенко, вынесены известные слова белорусского президента о доярке и премьер-министре.

# Труднее найти хорошую доярку или рабочего, чем премьер-министра

Высокий человек приветливо улыбается. Глаза заискивающе искрятся, пытаясь расположить к себе собеседника. *«Меня считают диктатором? Тем не менее, моя концепция власти во многом схожа с концепцией генерала де Голля в эпоху экономического кризиса»*. Александр Лукашенко с довольным видом приглаживает усы и поправляет жидкую прическу — формулировка явно удалась. На этот раз ссылка на де Голля должна пройти лучше, чем неожиданное признание, сделанное ошеломленным немецким журналистам: *«Гитлер оставил после себя не только плохие воспоминания в Германии. Он создал мощное государство благодаря сильной президентской власти»*.

*«За мной народ. И мне этого достаточно»*, — любит повторять президент Беларуси, избранный два года назад подавляющим большинством голосов. Через шесть месяцев после прихода к власти он впервые спас страну от «дерьмократов» и «разорения». В этот день депутат оппозиции Сергей Антончик выступил в парламенте с сенсационным разоблачением, обвинив в коррупции окружение Лукашенко. Как говорилось в докладе, несколько миллионов долларов, предназначенных для подъема экономики, реформирования сельского хозяйства и восстановления зараженных земель в чернобыльской зоне, бесследно исчезли из государственной казны. Для Александра Лукашенко, бывшего руководителя совхоза, избранного президентом благодаря ловко проведенной антикоррупционной кампании, этот доклад был тяжелым ударом. Говорят, что на том бурном заседании он плакал... Минутная слабость! Ночью контролируемый государством Дом печати получил приказ не печатать газеты, в которых упоминалось об этом «деле». Это была только прелюдия. Сегодня Лукашенко окончательно надел намордник на местные средства массовой информации. Закрытые радиостанции, избитые журналисты, обреченные на разорение газеты... Немногочисленные оппозиционные издания вынуждены печататься за границей.

Президент не пощадил даже избранных демократическим путем депутатов. Они были лишены депутатской неприкосновенности и теперь подвергаются силовому давлению. Несколько дней назад не раз доказывавший на деле свою верность премьер-министр подал в отставку, подвергнув критике антидемократические действия своего начальника. Ничего страшного: *«Труднее найти хорошую доярку или рабочего, чем премьер-министра»*, — небрежно бросает Лукашенко, всем своим видом давая понять, что совершенно равнодушен к превратностям судьбы.

Непревзойденный актер, влюбленный в политическую психодраму оратор, изъясняющийся на ужасном колхозном наречии, он регулярно объясняется в любви к своему народу: *«Вы самое дорогое, что у меня есть. Помогите спасти нашу прекрасную нацию!»* и не совсем дипломатично отчитывает Запад: *«Мне надоели все эти западные послы, они вмешиваются в то, что их не касается...»*. Это нравится колхозникам, пенсионерам и рабочим, жизненный уровень которых буквально обрушился после распада СССР. Сельским жителям, составляющим большую часть населения Беларуси, импонирует популистский стиль Лукашенко, в котором они видят ученого человека из народа, не принадлежащего к номенклатуре.

Его преднамеренно запутанная экономическая доктрина получила название «рыночного социализма». До сих пор никто не знает, что это такое... *«Это катастрофа... Какие бы ни приводились официальные цифры, кстати, все подтасованные, страна находится на краю пропасти. В Национальном банке почти не осталось резервов. Производство давно умерло. Мы несемся к краху»*, — с трудом сдерживает эмоции профессор экономики Станислав Богданкевич, бывший председатель Национального банка.

Популист Лукашенко опирается на ностальгию по советскому прошлому и великославянский национализм. Его единственная цель — возвратить Беларусь в лоно России. *«Только она может помочь нам реформировать экономику»*, — доверительно сообщает Лукашенко, любящий прихвастнуть своими доверительными отношениями с Борисом Ельциным, чтобы хоть как-то успокоить белорусский народ, ставший заложником одной из самых головокружительных в истории человечества экономических авантюр.

**Ромэн ГЮБЕР,** *Le Point, 30 ноября 1996г.*
*Перевел (с сокращениями)* **Владимир АБАНИН**

---

# Ликвидация советской власти

**Мало кто из приверженцев Александра Лукашенко отдает себе отчет в том, что в результате так называемого референдума в Беларуси окончательно упразднена советская власть.**

Дело не только в том, что по конституции имени Лукашенко Верховный Совет преобразуется в «национальное собрание». Это вопрос формальный. Но отказ граждан от права непосредственно избирать руководителей местных органов власти и получать информацию об источниках финансирования и расходования средств госструктурами всех уровней, зафиксированный в ходе референдума, ставит на советской власти жирный крест. Или, с удовольствием могут констатировать измучившиеся в ожидании этого дня антисоветчики, вбивает в ее могилу осиновый кол.

Здесь следует отметить, что стихийный опыт организации народного самоуправления, осуществленный в ходе первой русской революции, в полном объеме сознательно использовался всего один раз — 27 февраля 1917 года. В этот день по инициативе группы социалистов, состоявшей преимущественно из интеллигентов, был образован Петроградский Совет — орган власти восставшего народа.

Реальность властных полномочий советов заставила большевиков вести борьбу за повышение своего влияния в них и превращение их в инструмент партийной диктатуры. Первое «грехопадение» советов произошло 25 октября того же 1917 года, когда II съезд Советов, провозгласив лозунг «Вся власть Советам!», передал эту власть большевистскому правительству — СНК.

Но и во время гражданской войны (а также некоторое время после нее) советы не везде были большевистскими и даже «бедняцкими», поскольку население избирало в них крепких хозяев («кулаков») и более близких к нуждам народа эсеров, а не большевиков. Советы без коммунистов (а их на огромную страну просто не хватало) в то время были вполне обычным явлением.

Вследствии советы, подобно иным государственным и негосударственным структурам, стали «приводными ремнями партии» и в этом качестве не вызывали ни сомнений, ни эмоций вплоть до конца 80-х годов. К этому времени провалились перестроечные надежды на ускорение и интенсификацию производства, и Горбачев решил несколько ограничить всевластие партийной и хозяйственной бюрократии, в том числе за счет наделения некоторой автономией советов базового и среднего уровня.

На Божий свет вновь извлекли старый лозунг о «всевластии советов», которым было предоставлено право утверждать и контролировать расходование бюджетов, а также назначать и освобождать от должности ключевые фигуры в исполкомах. После августа 1991 года произошла где полная, где частичная их декоммунизация, а деятельность исполкомов была деполитизирована.

Конечно, во всем этом было больше лукавства, чем стремления к подлинной демократии; но даже действуя «со связанными руками», советы демонстрировали определенную независимость от исполнительных структур. Беларусь в этом отношении имела свои особенности. Ее Верховный Совет предпоследнего созыва, в основном номенклатурный и избранный для привычного «сидения» и одобрения центральных инициатив, превратившись в одночасье в почти нормальный парламент, почувствовал себя одиноким и заброшенным. Успокоиться не давала и оппозиция — малочисленная, но чрезвычайно активная и бескомпромиссная.

В конечном итоге лукавство восторжествовало над чистотой помыслов, и в Беларуси, которая дольше всех удерживала статус парламентской (советской) республики, был введен институт президентства. И все бы ничего, но заняв место, предназначенное изначально для другого человека, Лукашенко воспринял ситуацию чересчур буквально. А при таком подходе не нужны ни ширмы, ни политические оппоненты, да и приводные ремни тоже.

Агрессивный антисоветизм президента проявился уже в первые дни его правления и завершился фактическим роспуском советов всех уровней, исключая Верховный. Через год, проведя первый победоносный для себя референдум, Лукашенко фактически сорвал выборы в новый ВС. Затем, что выглядит только как логическое воплощение генетического антисоветизма, и вовсе его разогнал.

И сразу стало понятно, что советская власть была на самом деле политической пустышкой, химерой, во имя которой и от имени которой погибли и были уничтожены миллионы людей. Парадоксально, но сторонники президента, голосуя против советской власти, обвинили в антисоветизме ее, по сути, защитников и сторонников.

Не ведают, что творят? Пожалуй. Но именно поэтому маневр Лукашенко следует занести в анналы антисоветизма как высочайшее его достижение, оказавшееся недоступным для весьма и весьма значительных исторических фигур. И уж не знаю — ликовать по тому поводу или творить молитву во спасение души.

**Константин СКУРАТОВИЧ**

